© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024


# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 21 (534) Год XI   22 МАЯ 1966 г.   Цана 60 гр.


*ДНІ АСВЕТЫ, КНІЖКІ І ПРЭСЫ*

## „ЧЫТЭЛЬНІК“

«Чытэльнік» распачаў выдавецкую дзейнасць у верасні 1944 года. Выспецыялізаваўся ў выдаванні польскай сучаснай літаратуры. Яго першай пазіцыяй было кніжнае выданне сцэнаграму судовага працэсу гітлераўскіх злачынцаў з Майданка.

Пасля 20 год працы «Чытэльнік» мае на конце 4 760 загалоўкаў тыражом у 80 мільёнаў экземпляраў.

Да найбольшых яго дасягненняў належыць Юбілейнае выданне твораў Міцкевіча.

У «Чытэльніку» дэбютавала большасць сённяшніх літаратурных слаў: Ігар Нэўрлі Юліян Стрыйкоўскі, Вайцех Жукроўскі, Тадэўш Канвіцкі.

На сёлеташнія кірмашы «Чытэльнік» падрыхтаваў 37 загалоўкаў з 500 тысячамі экземпляраў. (вл)




*Мікола Федзюкевіч*

## СУСТРЭЧА З МАЦІ

*Неба сёння такое высокае.*
*Дайце крылы мне — палячу...*
*Я на двор стрымгалоў выскокваю*
*і бягу, бягу і лячу.*
*Сэрца мкнецца мяне перагнаць —*
*ў клетку грудную дзяўбе...*
*О, часіна спаткання з маці,*
*бласлаўляю навек цябе!*
*Прыгадаю і хлеб, і рукі,*
*што працягнуты з поўнай місай.*
*Галаву маю, мама, пругкую*
*у далоні хутчэй вазьмі свае.*
*Прытулі,*
*маеш сілы колькі,*
*і скажы запаветнае, шчырае.*
*Для цябе я заўсёды Колька,*
*хоць для іншых — даўно мужчына.*
*...І мільёнамі сонцаў паблісквае*
*зіхатлівы крышталік снегу:*
*Ах, а неба — такое блізкае!*
*Толькі ж маці бліжэй, чым неба...*

## НАБОР У „ЛЯВОНІХУ“

*Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку аб'яўляе конкурс на інструктараў-салістаў эстрады «Лявоніха» (мужчыны і жанчыны).*

*Кандыдатам ставяцца наступныя вымаганні:*

*а) добры голас, слых і дыкцыя,*

*б) арганізацыйныя здольнасці да працы з аматарскімі калектывамі,*

*в) мінімум — сярэдняя адукацыя.*

*Пажаданым было б уменне іграць на адным з музычных інструментаў.*

*Жадаючыя працаваць у «Лявонісе» павінны прыслаць заявы на адрас: ZG BTSK Białystok, ul. Warszawska 11 да дня 15 чэрвеня 1966 г.*

*Аб тэрміне прыезду ў ГП кожны з кандыдатаў атрымае паведамленне.*

# ТУРЫСТЫКА

**Атракцыйнай формай працы гурткоў БГКТ з'яўляюцца турыстычна-краязнаўчыя экскурсіі. Хіба не знойдзецца ані адзін гурток, члены якога не хацелі б наладзіць экскурсіі ў горад у тэатр, наведаць прамысловае прадпрыемства, палюбавацца прыгажосцю мазурскага краявіду, пазнаёміцца з гістарычнымі помнікамі культуры Кракава, Варшавы ці адпачыць у сонечных праменнях на пясчаных берагах мора. Многа шматлікіх арганізацый і ўстаноў займаецца папулярызацыяй краязнаўчай турыстыкі, а мала хто з іх прыходзіць вясковай грамадскасці з канкрэтнай дапамогай у забеспячэнні танных сродкаў транспарту, начлегаў і г. д.**

**Можа хто-небудзь з чытачоў у гэтым месцы хацеў бы супярэчыць мне ўказваючы на спулдзельню турыстычна-выпачынковую «Грамада». Сапраўды, «Грамада» паклікана з мэтай папулярызацыі і арганізацыі турыстыкі і адпачынку сярод вясковага насельніцтва. Але адразу хочацца запытацца: колькі з гэтых удзельнікаў становяць сапраўдныя жыхары вёсак? Думаю, што лік іх быў бы не надта вялікі, таму што маючы на ўвазе рэнтоўнасць «Грамада» пабірае высокую аплату за выпазычанне аўтакараў, і гурткам БГКТ. ЗМВ не аплочваецца ездзіць гэтымі аўтокарамі на экскурсіі. А ездзяць імі найбольш вучні сярэдніх школ з павятовых гарадоў і малых мястэчак, працаўнікі розных вясковых устаноў, якім ўлады зафундавалі экскурсію і г. д. Не ведаю, ці знойдзецца ў ваяводстве гурток БГКТ ці якой-небудзь іншай арганізацыі, якая скарыстала б тры ці чатыры разы ў год з аўтокараў «Грамады» да паездкі, напрыклад, у тэатр. Наш гурток БГКТ, на некалькі экскурсій у тэатр арганізаваных на працягу апошніх гадоў, толькі адзін раз скарыстаў з услуг «Грамады», а калі б карыстаў часцей, дык лік 8 паездак у тэатр зменшыўся б да 2—3. Нават за выкупленне білетаў у тэатр праз гэтую спулдзельню трэба плаціць па 1 зл. даражэй. «Грамадзе» разыходзіцца не толькі пра папулярызацыю турыстыкі і павышэнне культуры на вёсцы, але між іншым, як і кожнай спулдзельні, пра выкананне фінансавых планаў. Праўда, ёсць заслугі «Грамады» ў развіцці турыстыкі і культуры на вёсцы. Але справа ў тым, што гэтыя заслугі ў параўнанні да магчымасцей гэтай спулдзельні і яе тэарэтычных закладанняў вельмі малыя.**

**Прыпамінаецца мне мінулае, калі наша таварыства магло не толькі папулярызаваць турыстыку, але і мела магчымасці быць выканаўцам запатрабаванняў вясковай грамадскасці ў гэтай дзялянцы жыцця. Маю на думцы тыя гады, калі Галоўнае праўленне мела свой уласны аўтокар. Добра заслужылася тады наша таварыства ў развіцці турыстыкі на вёсцы. Безумоўна, лепш чым «Грамада». Многа вучняў пачатковых школ з вёсак, членаў гурткоў і аднавяскоўцаў выязджала гэтым аўтокарам на экскурсіі таму, што адплатнасць была малая, 5 зл. за кіламетр. Шкада, што зараз жа такія магчымасці не існуюць. А наш заслужаны аўтокар дачакаўся даволі сумнай бяздушнай старасці — стаіць бядняга на паркінгу пры вуліцы Сянкевіча і хіба ніхто не ведае, што з ім зрабіць. І таму ў адрас Галоўнага праўлення БГКТ накіроўваем патрабаванні зацікавіцца гэтай справай, разважыць магчымасці рамонту старога аўтокара, а калі не, дык далажыць намаганняў у пакупцы новага. Думаю, што ваяводскія ўлады ў гэтай справе для супольнай карысці павінны прыйсці Галоўнаму праўленню з усебаковай дапамогай. А варта паклапаціцца. Возьмем для прыкладу наш гурток БГКТ. Людзі прывыклі ездзіць у тэатр. Зараз жа дзеці і пажылыя жыхары звяртаюцца з запытаннямі, чаму не арганізуем экскурсій. Адказ просты. Ня-**

(Працяг на стар. 5)

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

■ У канцы мінулага тыдня вярнулася з Францыі дэлегацыя польскага Сейма, якую ўзначальваў Зэнан Клішка. Візіт польскай парламентарнай дэлегацыі з'яўляецца працягам размоў, якія запачаткаваў у мінулым годзе, будучы ў Францыі, прэм'ер — Юзэф Цыранкевіч.
Выклікаў ён велізарнае зацікаўленне не толькі ў Францыі і Польшчы, але шырокім рэхам адгукнуўся ў свеце. Трэба адзначыць, што гэтае зацікаўленне вынікае з некалькіх аспектаў. Перад усім, візіт адбываўся ў сітуацыі Францыі, якая адыходзіць з НАТО, якая асуджае в'етнамскую вайну, гаворачы, што толькі шляхам перагавораў можна вырашыць справы Паўднёвага В'етнама, якая бачыць і асуджае адраджэнне новага нацызму ў Заходняй Германіі і т. п. Разважаючы візіт польскіх парламентарыяў трэба бачыць і тое, што З. Клішка спаўняе не толькі функцыю віцэ-маршала Сейма, але перад усім з'яўляецца членам Палітбюро і сакратаром ЦК ПАРП — падкрэслівае французская прэса. А ў сувязі з гэтым мы назіраем зусім іншую праграму візіта, як гэта бывае ў такога тыпу сустрэчах. З. Клішка два разы сустрэўся з міністрам замежных спраў, прэм'ерам французскага ўрада і ўрэшце быў прыняты прэзідэнтам дэ Голем. Размовы аб суадносінах між дзвюма дзяржавамі ўласціва кажучы адносіліся да чатырох асноўных спраў. Справа **культурных сувязей і культурнага абмену,** якая развіваецца як найлепш, **гандлю** між Францыяй і Польшчай, які таксама добра развіваецца, але гэта не абазначае, што не можа быць лепш, **навуковага супрацоўніцтва** і абмену ў гэтай галіне таксама задавальняючага і **палітыка.** Французскія наглядальнікі сцвярджаюць у першых каментарыях, што візіт польскай дэлегацыі з'яўляецца яшчэ адным доказам мірнага суіснавання. Прыналежнасць Францыі і Польшчы да розных палітычна-мілітарных сістэм абсалютна не выключае дыялагу, а наадварот, служыць яму. Наогул сцвярджаецца, што ў часе багатага візіта наступіла далейшае збліжэнне пунктаў гледжання на некаторыя справы міжнароднай абстаноўкі, а перад усім спраў Еўропы.

■ Прэм'ер Паўднёвав'етнамскага ўрада Кі заявіў, што на чале ўлады астане ён яшчэ на працягу аднаго года. Амерыканцам Кі сказаў, што не прызнае ён выбараў, калі яны не задаволяць яго або Злучаныя Штаты.

■ Спецыяльныя выданні кітайскіх газет паінфармавалі, што 9 мая ў 16 гадзін пекінскага часу Кітай паспяхова правёў у паветры ядзерны ўзрыў бомбы «якая мела тэрмаядзерныя матэрыялы».

■ З паломніцкага падарожжа ў Іерусалім і на Афон да Масквы вярнулася група свяшчэннікаў і веруючых Рускай праваслаўнай царквы. Паломніцкую групу ўзначальваў метрапаліт Ленінградскі і Ладожскі Нікодым. Прабываючы ў Афінах, метрапаліт Нікодым быў прыняты прэм'ер-міністрам Грэцыі, г. нам Стэфанапуласам і нанёс візіт прынцэсе Ірыне.

## БССР

### ГОСЦІ

У Мінску пабывалі прафсаюзныя дэлегацыі Румыніі, Швецыі, Нарвегіі, Даніі, Ісландыі. Зарубежныя госці знаёміліся з работай беларускіх прафсаюзных арганізацый.

### ЗЛЁТ МІЛІЦЫІ

Адбыўся злёт выдатнікаў беларускай міліцыі. На злёце выступіў з прамовою Б. Шумілін, міністр аховы грамадскага парадку Беларускай ССР. Прысутнічаў на злёце Сяргей Прытыцкі, сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Вялікая група работнікаў міліцыі ўзнагароджана медалямі.

### ГОРАД — СПУТНІК

На ўсходніх ускраінах Брэста будуецца новы горад. Між іншым, ставяцца будынкі інжынерска-будаўнічага інстытута.

### ФІЛЬМАТЭКА

У Інстытуце мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук створана фільматэка-фанатэка старажытнай беларускай кніжкі. Сфатаграфавана ўсё, што захавалася да нашых дзён з даўняга пісьменства беларусаў.

### АЎТАМАТЫЗАЦЫЯ

У Навагрудку пабудавана завод масла і сухога малака. Амаль усе прадукцыйныя працэсы тут механізаваныя і аўтаматызаваныя.

### РАДЫЁЛА

Пачалася прадукцыя дваццацілямпавай радыёлы «Беларусь-110». Радыёла з'яўляецца злучэннем тэлевізара, радыёпрыёмніка і адаптара. Яе вага — 35 кілаграмаў.

### АЗЕРБАЙДЖАНСКАЯ ВЫСТАЎКА

У Мінску ў магазіне-салоне мастацкага фонду БССР, адкрыта выстаўка работ азербайджанскіх мастакоў. Экспазіцыя выстаўкі ўключае каля соткі твораў шасці мастакоў.

### СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

У сувязі са Святам Перамогі 9 мая беларускія газеты друкуюць матэрыялы аб абарончых баях летам 1941 года ў беларускім Прыдняпроўі. Баі гэтыя цягнуліся амаль месяц і дагэтуль было мала вядома пра іх.

### БУДОЎЛЯ

Доўгі час жыхары Ашмян карысталіся прывазным палівам, хоць побач залягаюць вялікія паклады торфу. Цяпер будуецца тут торфабрыкетавы завод, які вырашыць не толькі праблему паліва, але і дасць працу мясцовым людзям.

### ВЫБАРЫ

У Мінску 6 мая адбылося чарговае пасяджэнне выбарчай камісіі Беларускай ССР па справах выбараў у Савет Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета Саюза ССР. Разгледжана пытанні звязаныя з выбарчай кампаніяй у Беларусі. Звернута ўвагу на патрэбу ўзмацнення масавай работы сярод маладых выбаршчыкаў.
На тэрыторыі Беларусі ўтворана 5 866 выбарчых участкаў (СЯ)

## ПОЛЬШЧА

### СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА ЗАХОДНІХ І ПАЎНОЧНЫХ ЗЕМЛЯЎ

«Трыбуна Люду» ад 15 мая змяшчае даволі абшырнае інтэрв'ю, якое даў сакратар Цэнтральнага Камітэта ПАРП тав. Язэп Тэйхма. Гаворыць ён аб развіцці і значэнні сельскай гаспадаркі на Заходніх і Паўночных землях Польшчы. У апошнім дзесяцігоддзі наглядаецца там асабліва бурнае развіццё ўсіх галін сялянскай вытворчасці. Вось для прыкладу: калі ў сярэднім у цэлай краіне з кожных 100 га дабываецца 14 тон збожжа на продаж, то на Заходніх і Паўночных землях дабываюць 23 тоны. Там жа дзяржава купляе 47% збожжа, 34% быдла і 36% малака.

### ДЗЕНЬ ДЗЕЯЧА КУЛЬТУРЫ

Апошняя нядзеля прайшла пад знакам дня дзеяча культуры. У сувязі з гэтым у Міністэрстве культуры адбылося ўрачыстае ўручэнне высокіх ордэнаў выдатным літаратарам і работнікам культуры. Найвышэйшы ордэн — Крыж Камандорскі з Зоркай Ордэна Адраджэння Польшчы — атрымаў пісьменнік Ежы Шаняўскі. Разам высокія ордэны атрымала каля ста асоб.

### ПРА РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ ДЗЕЯЧАЎ

Пасля 4 год карпатлівай працы, якую праводзіў цэлы штаб працаўнікоў Інстытута гісторыі польскага рэвалюцыйнага руху ў Варшаве падрыхтавана да друку «Аўтабіяграфічны слоўнік дзеячаў польскага рэвалюцыйнага руху». Пяць аб'ёмістых тамоў змяшчаюць інфармацыі пра звыш 10-ці тысяч асоб. Галоўным рэдактарам «Слоўніка» з'яўляецца доц. др Фелікс Тых.

### У ШЧЭЦІНЕ 320 ТЫСЯЧ ЖЫХАРАЎ

Шчэцін яшчэ ў 1960 годзе налічваў больш жыхараў, чымсьці ў 1939. Цяпер у Шчэціне жыве 320 тысяч чалавек. Больш як палавіна сярод іх — гэта ўжо радавітыя шчэціняне.

### «КАСЦЮШКА»

Так называецца 700-гадовы дуб, які знаходзіцца ў пушчы пад гістарычным мястэчкам Паланец (паланецкі маніфест Касцюшкі). Спецыялісты на аснове шматгадовых назіранняў сцвердзілі, што векавы дуб усё яшчэ расце.

### МАРОЖАНАЕ І СМЕРЦЬ

У мясцовасці Ныса (Апольскае ваяводства) каля 300 чалавек атруцілася марожаным, якое пусціла ў продаж прадпрыемства мясцовага спажывецкага кааператыва. 75 асоб неабходна было накіраваць у бальніцу на даўжэйшае лячэнне. Прычынай няшчасця былі дрэнныя санітарныя ўмовы прадпрыемства. Асцярожна тады з марожаным.

### ВОЎНАКАМБІНАТ

Большая частка грошай ваўнянай прамысловасці прызначана на камбінат для апрацоўкі воўны — Тамашаў II, якога пабудову пачалі нядаўна ў мястэчку Тамашуў Мазавецкі, у Лодзінскім ваяводстве. Калі камбінат пачне працу поўнай парай, будзе ён штогод выпускаць звыш 3-ох мільёнаў метраў высакаякаснага сукна.

## ВАЯВОДСТВА

### ГЭТЫЯ НАЙБЯДНЕЙШЫЯ

У сям'і Беластоцкага ваяводства ёсць іх 9. Быццам ад мачахі. Сейненскі, Дуброўскі, Кольненскі, Сакольскі, Сямяціцкі, Граеўскі, Манецкі, Высока-Мазавецкі і Галдапскі паветы. Няўдзячны лёс адвярнуўся да іх плячыма і не дазволіў на абсталяванне, скажам, буйнага завода, шахты ці нейкай другой крыніцы, з якой шырока паплыў бы даход. Да вайны і цяпер гэтыя паветы віталі і развітвалі чарговыя гады ў санлівым настроі, прыгавораным да спакойнага хлебаробніцкага жыцця.
Гаспадары ваяводства, трэба іх пахваліць, намагаліся падлечыць надта ж кволыя арганізмы найбяднейшых паветаў. Тры гады таму назад ўсебакова разглядалі гэтае пытанне радныя Ваяводскай рады. Узнік тады дакумент: **«Пастанова № 43/10 Ваяводскай рады нарадовай ад 9 красавіка 1963 года ў справе галоўных напрамкаў грамадскай і гаспадарчай актывізацыі паветаў, малых мястэчак і пасёлкаў Беластоцкага ваяводства».** Гэтая пастанова рысавала найбяднейшым паветам даволі заманлівыя перспектывы. Дуброве і Высока-Мазавецкаму абяцала на адным прадпрыемстве для перапрацоўкі фруктаў і агародніны, Бельск меў атрымаць прадпрыемства металаапрацоўчага промыслу, Беластоцкаму павету запісана пабудову прадпрыемства ў наваколлі Юшкова Груда, сыравінай для якога было б багацце балота «Імшар». Цешыліся і ў Сувалках, і ў Алецку, і ў Граеве, і ў многіх другіх мясцовасцях, дзе планавалася штосьці новае. Разам 22 аб'екты. Пабудаваць іх паабяцалі ў 1963—1965 гадах розныя спулдзельчыя і дзяржаўныя ўстановы. Намер быў сапраўды высакародны.
«Добры палітык, — гаварыў калісьці англійскі дыпламат Чэрчыль, — гэта той, які патрапіць прадбачыць, што будзе за год ці два, а потым зможа растлумачыць, чаму так не сталася».
Штосьці падобнае здарылася ў нас. У 1964 і 1965 гадах на планаваныя 22 пачалі будаваць ледзь 9 аб'ектаў. На рэшту, тлумачаць, не хапіла грошай. Суровыя абмежаванні капіталаўкладанняў. Прыйшлося падцягнуць дзягу, моцна ўтаймаваць свой апетыт і з надзеяй глядзець на наступныя гады, калі больш будзе грошай. Надзея не без асноў. Прырост грашовых магчымасцей у адсталых паветах наступае каля паўтара раза (у сярэднім) хутчэй чымсьці ў цэлым ваяводстве. Вось у Дуброўскім павеце два гады таму назад на капіталаўкладанні маглі прызначыць каля 18,5 мільёнаў злотых, а цяпер ужо звыш 47 мільёнаў. Каса Сакольскага павета за той час узбагацілася на каля паўтара раза.

Аднак трэба аглядацца не толькі на грошы. Ратунку шукаць у мерапрыемствах, якія не патрабуюць буйных капіталаўкладанняў. Ёсць такія. **Вось хатняя, накладная прадукцыя.** Цяпер у ваяводстве гэтым спосабам зарабляе сабе на хлеб каля 2 тысяч чалавек, перш за ўсё жанчын. Існуюць вялікія магчымасці для развіцця гэтага роду прадукцыі. Вельмі занядбанае ў нас

(Працяг на стар. 5)

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA, 22. V.**

9.05 Program dnia; 9.10 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja zbioru zielonek na kiszonki"; 10.00 Dla dzieci: „Historia teatru kukiełkowego"; 10.40 PKF; 10.55 Sprawozdanie z finału Mistrzostw Polski w boksie (Wrocław); 13.30 Wiad. TV; 13.40 „Geologowie" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"); 13.55 Program muzyczny; 14.25 „Koń, który mówi" — film; 14.50 Dla dzieci: Jerzy Jesionowski — „Wyprawa po zielony metal" (transmisja z Teatru „Widziadło" w Warszawie); 16.00 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z XII etapu; 16.30 „Kierowcy — przechodnie" — teleturniej; 17.30 „Czeski zespół jazzowy Gustawa Broma"; 18.00 „Żużlowe Mistrzostwa Świata" (II eliminacja); 19.00 „Spotkanie z poetą"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Słownik wyrazów obcych"; 20.15 „Zbrodniarz i panna" — film fab. polsk. od lat 16; 21.35 „Śpiewa Jadwiga Prolińska"; 21.55 „Niedziela Sportowa".

**PONIEDZIAŁEK, 23. V.**

15.40 Program dnia; 15.45 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XIII etapu (155 km) Rostock — Schwerin; 17.25 Wiad. dzien. TV; 17.30 Dla dzieci: „Poly i tajemnica siedmiu gwiazd" (film); 17.45 „7 milionów młodych"; 18.00 „Kino Krótkich Filmów"; 18.25 „Eureka"; 18.55 „...Aż po krańce świata"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Teatr TV: „Szwejk na tyłach" J. Hasek. Wykonawcy: R. Kłosowski, H. Bąk, R. Bacciarelli, A. Bogucki, Wł. Hańcza, I. Jaglarzowa, A. Leszczyńska, B. Pawlik, Cz. Roszkowski, T. Surowa, W. Rajewski, L. Ordon, S. Żórawski i inni; ok. 21.20 „Na półkach księgarskich"; 21.30 „Kronika Kulturalna"; 21.50 Dziennik TV; 22.05 17-ta lekcja języka ang.

**WTOREK, 24. V.**

10.00 „Czas miłości" — film fab. rum.; 11.20 Przerwa; 15.50 Program dnia; 15.55 Politechnika TV: Kurs Przygotowawczy. Fizyka (Elektroliza i jej zastosowania. Zjawisko dysocjacji elektrolitycznej). Wykładowca — prof. I. Adamczewski; 16.30 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XIV etapu (240 km) Schwerin — Poczdam; 17.10 „Tramp" — mag. turyst.-krajoznawczy; 17.30 Wiad. dzien. TV; 17.35 Dla dzieci: „Kino Ptyś"; 18.00 „Spotkania z przyrodą"; 18.25 „Bryza" (Gdańsk); 18.50 „9 minut" — teleturniej; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Notatnik afrykański" — rep. film.; 20.15 „Czas miłości" — film fab. rum. od lat 16; 21.40 Wszechnica TV: „Polska racja stanu w dobie Odrodzenia". Przed kamerą prof. dr K. Grzybowski; 22.10 Dziennik TV; 22.25 Politechnika TV: Kurs Przygotowawczy. Fizyka. (Elektroliza i jej zastosowania. Zjawisko dysocjacji elektrolitycznej). Wykładowca — prof. I. Adamczewski; 22.55 18-ta lekcja języka fran.

**ŚRODA, 25. V.**

9.55 Dla szkół (kl. VI) Fizyka: „Przekazywanie ciepła"; 10.30 „Dr Kildare", film; 11.20 Przerwa; 14.55 Program dnia; 15.00 Politechnika TV: Kurs Przygotowawczy. Matematyka. (Rzut równoległy, graniastosłupy i ostrosłupy) Wykładowca — doc. dr A. Piskorek; 15.30 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z XV (ostatniego) etapu (44 km) Strassburg — Berlin; 17.10 Wiad. dzien. TV; 17.15 Dla dzieci: „Przygody błękitnego rycerzyka", film; 17.30 Dla młodych widzów: Teatr Jednego Aktora J. Domagalik: „Jak się odkochać"; 17.45 „Tygodnik Wiejski"; 18.10 „Informator handlowy"; 18.20 „Kup moje kwiaty" — program rozrywkowy; 18.50 Wszechnica TV: „Chleb dla planety"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Dr Kildare", film; 21.05 „Światowid" — mag. spraw międzynarodowych; 21.30 „Nad Odrą" — tv nowela filmowa polska („Dzień ostatni, dzień pierwszy"); 21.55 Dziennik TV; 22.05 „Romanza we krwi" — estrada literacka; 22.45 Politechnika TV: Kurs Przygotowawczy. Matematyka. (Rzut równoległy, graniastosłupy i ostrosłupy) Wykładowca — doc. dr A. Piskorek; 23.15 18-ta lekcja języka rosyjskiego.

**CZWARTEK, 26. V.**

10.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski. Henryk Sienkiewicz „Latarnik" („Wśród książek"); 11.25 Przerwa; 15.45 Program dnia; 15.50 18-ta lekcja języka franc.; 16.10 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja zbioru siana"; 16.55 Wiadomości dzien. TV; 17.00 Dla młodych widzów: „Draka w piwnicy"; 17.25 Dla młodych widzów: „TV Klub Trzynastolotków"; 17.45 „Nie tylko dla pań" mag.; 18.05 „Informator Turystyczny"; 18.15 „Muzyka w czasie i przestrzeni"; 18.45 „Czwarta zmiana"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Program filmowy; 21.35 „Wiraże" — rep.; 22.05 Dziennik TV; 22.15 18-ta lekcja języka angielskiego.

**PIĄTEK, 27. V.**

12.45 Dla szkół (kl. III) „Maszeruje wojsko"; 13.05 Przerwa; 15.55 Program dnia; 16.00 18-ta lekcja jęz. ang.; 16.20 „Piętno wiosny" — kompozycja muzyczna (Moskwa); 17.00 Wiad. dzien. TV; 17.05 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.20 Dla młodych widzów: „Gdańska kronika dziewcząt i chłapców"; 17.35 „Szlak pełen niebezpieczeństw" — film („Świat, który nie może zginąć"; 18.00 „Wincenty Witos" — film dokument.; 18.30 „Wielokropek"; 18.50 Wszechnica TV: „Opowieści z myszką"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Rejs do Skandynawii" — rep. film.; 20.15 „Pogranicze południk 15" — S. Bratkowskiego. Transmisja przedstawienia Teatru im. W. Bogusławskiego w Kaliszu w ramach Festiwalu Polskich Sztuk Współczesnych; ok. 21.45 „10 minut recenzji"; 21.55 Dziennik TV.

**SOBOTA, 28. V.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia. „Ssaki"; 10.25 „Interesy pana Mercadet", film fab.; 11.35 Przerwa; 15.35 Program dnia; 15.40 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.00 „Internocjonaliści" — program o uczestnikach polskich w Rewolucji Październikowej i Wojnie Ojczyźnianej (Moskwa); 16.30 18-lekcja jęz. rosyjskiego; 16.55 Wiad. dzien. TV; 17.00 „Program tygodnia"; 17.15 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów"; 18.10 „Po szóstej" — młodzieżowy klub tv (Katowice); 18.50 „Podróż do wód" — rep. film; 19.05 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Pegaz" — mag. kult.; 21.00 Transmisja koncertu z Filharmonii Narodowej w Warszawie. W przerwie ok. 21.45 Dziennik TV i Wiadomości Sportowe; 23.00 „Interesy pana Mercadet" — film fab.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

**КНЫШЭВІЧАМ 400 ГАДОЎ**

**Есць такі дакумент выдадзены друкам ў Вільні ў 1867 годзе пад загалоўкам: «Ревізія пушч і переходов зверыных в бывшем Веліком Княжестве Літовском». У дакуменце гэтым запісана, між іншым, што ў 1553 годзе «асочнікі» Ахрым Арешкавіч Кнышэвіч і Марцін Станцевіч Кнышэвіч адкупілі ў Крынскай пушчы ад Сцяпана Амеляновіча і Папея Андрэевіча Лясковічаў за 2 копы і 22 літоўскія грошы дзве борці. Далі яны пачатак сённяшняй вёскі Кнышэвічы.**

Наша акцыя

# КРЫПТАНІМ „В"

# КНЫШЭВІЧЫ

## КНЫШЭВІЦКАЯ МОЛАДЗЬ

У Кнышэвічах асабліва летам амаль кожны тыдзень адбываюцца маладзёжныя танцавальныя забавы. Часам у прыватных хатах, часам проста на панадворку. Амаль кожную такую «забаву» кнышэвіцкія хлопцы «акрашаюць» бойкамі. Пасля боек пакрыўджаныя часта годзяцца, часам аднак справа канчаецца судамі і турмою.

— Сарганізуем мастацкі гурток! — сказалі аднойчы некалькі гадоў таму назад кнышэвіцкія настаўнікі.

Сабралася тады ў школьным будынку кнышэвіцкая моладзь і пачалася падрыхтоўка п'есы. Падзяліліся ролямі, пачалося вывучэнне тэкстаў і рэпетыцыі. Бяда аднак у тым, што ніхто мабыць з моладзі не трактаваў працы ў аматарскім гуртку ўсур'ёз. Неўзабаве пачаліся клопаты: а то не ўсе папрыходзяць на рэпетыцыі, а то, прыйшоўшы, замест вучыцца, пачнуць хуліганіць, ды ўсё не так як трэба. Урэшце хлопцы пачалі дакучаць настаўнікам, з якімі працавалі ў аматарскім гуртку, прыходзілі нават п'яныя ўночы ды ламалі да настаўніц у вокны і ў дзверы. Настаўніцы адказаліся ад супрацоўніцтва з кнышэвіцкай моладдзю, і ўсё надалей адбываецца тут па-старому.

Настаўнікі кнышэвіцкай школы часта арганізуюць для школьнай моладзі танцавальныя вечарыны. Вучаць на іх школьнікаў танцаваць народныя і модныя сучасныя танцы, вучаць добрых сяброўскіх манер. Калі аднак няшкольная моладзь пачуе музыку ў школе нягледзячы на забарону настаўнікаў пхаецца ў школьную залу ды збіраецца танцаваць. Настаўнікі вымушаны перарваць школьныя вечарыны.

Кнышэвічы нельга назваць вёскай забітай дошкамі. І моладзь тут здавалася б «бывалая», ездзіць да работы, бывае ў свеце, у людзях. Шкада толькі, што разам з заробленымі грашыма не прывозіць яна ў Кнышэвічы добрых манер і ўмення культурнага жыцця.

## КНЫШЭВІЦКІЯ ЖАНІЦЬБЫ

Кнышэвіцкія дзяўчаты выразна не хочуць выходзіць замуж за кнышэвіцкіх хлопцаў. Так, напрыклад, у мінулым годзе выйшла замуж з Кнышэвічаў дзве дзяўчыны. Абедзьве пайшлі за хлопцаў, якія жывуць у Беластоку. У гэтым годзе, для адмену, рыхтуецца да жаніцьбы двух кнышэвіцкіх хлопцаў і абодва бяруць дзяўчат з чужых вёсак.

## КНЫШЭВІЦКІЯ ГОРЫ

У Кнышэвічах краявід нечым на Падкарпацці: кругом горы і ўзгоркі. Кожная з гэтых гор, зразумела, мае сваю назву. Ёсць тут між іншым: Высокая гара, Белая гара, Замкавая гара, Быковая гара, Байгузавая гара, Козія горы і Літоўскія горы. Ніхто аднак у Кнышэвічах не ведае, адкуль паходзяць і з чым вяжуцца гэтыя назвы.

## ДАРОГА

Калі пачыналася будавацца праз Кнышэвічы шаша, кнышэвічане не задумваючыся доўга прынялі ўдзел у працах грамадскім чынам пры яе пабудове. Кнышэвіцкія гаспадары ведалі, што калі пабудуецца добрую дарогу, праз вёску іх пойдзе ПКС, а і самім мець добрую дарогу выгадна і прыемна. Таму кнышэвіцкія сяляне з ахвотаю вазілі на шашу пясок, каменне, капалі равы. Зараз дарога пабудавана. Ездзіць ёю аўтобус з Саколкі ў Бабікі, які затрымоўваецца ў Кнышэвічах. Каб вясковая вуліца была яшчэ прыгажэйшай, жыхары абсадзілі яе маладымі дрэўцамі: ліпамі, клёнамі, ясенямі. У пасадцы дрэўцаў асабліва адзначылася мясцовая школа.

Зараз кнышэвіцкія дрэўцы прыгожа распусцілі вясенняе зялёнае лісце, а маладыя і старыя кнышэвічане падліваюць іх штодзень свежаю вадою. Каб раслі весела!



**Дзядзька Шымон Бародзіч расказвае.**

## КНЫШЭВІЦКІЯ АМБІЦЫІ

Больш-менш палова кнышэвіцкіх бацькоў мае амбіцыі пасля заканчэння пачатковай школы вучыць сваіх дзяцей далей. Так, напрыклад, у мінулым годзе на 12 выпускнікоў VII класа вучыцца ў розныя школы пайшло 7 асоб. У тым ліку 5 асоб вучыцца на педагогаў, адна — у сельскагаспадарчым тэхнікуме і адна ў будаўляным тэхнікуме. У гэтым гадзе на 15 вучняў VII класа 7 выбіраецца ў розныя сярэднія школы, а 8 застаецца канчаць VIII клас у Кнышэвічах. 5 асоб з Кнышэвічаў вучыцца ў СПР-ах ў Шудзялаве.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Школа ў Кнышэвічах з'яўляецца адной з нямногіх школ Сакольскага павета, у якой вывучаюць беларускую мову. На ўрокі беларускай мовы ходзяць тут усе школьнікі ад II да VII класа.

## КНЫШЭВІЦКІЯ ГАСПАДАРЫ

Гаспадароў, а больш правільна — гаспадарскіх сем'яў у Кнышэвічах звыш 70. Кнышэвіцкія гаспадары, як і гаспадары ва ўсім свеце, аруць, сеюць і мараць аб як мага найвышэйшых ураджаях. Каб прыблізіць гэтыя мары кнышэвіцкія гаспадары пастанавілі ўзорам іншых вёсак заснаваць сельскагаспадарчы гурток. Гурток такі ўзнік тут у пачатку 1966 года. Заснавальнікі яго лічылі, што найбольш пільнай і найважнейшай у кнышэвіцкай гаспадарцы справай з'яўляецца трактар. Паслалі нават аднаго з членаў гуртка да Бухвалова вучыцца на трактарыста. Энтузіязм кнышэвіцкіх гаспадароў кончыўся аднак з хвілінай, калі Саюз сельскагаспадарчых гурткоў у Саколцы вырашыў пакуль што не даваць кнышэвіцкаму сельгасгуртку трактара.

— Па-першае, — тлумачылі кнышэвіцкім гаспадарам у Саколцы, — трактара ў вас няма дзе толкам паставіць, а па-другое, праўдападобна не будзе ён поўнасцю выкарыстаны.

Павятовыя ўлады вырашылі, што Кнышэвіцкі сельскагаспадарчы гурток будзе карыстацца трактарамі сельскагаспадарчага гуртка ў адлеглых у 4 кіламетрах ад Кнышэвічаў Бабіках. Кнышэвіцкія гаспадары ў адказ на гэта ўзбунтаваліся і перасталі дзейнічаць у сваім сельскагаспадарчым гуртку. Гурток гэты існуе ў Кнышэвічах толькі фармальна. А шкада. Марнуюцца такім чынам непатрэбна грошы Фонду сельскагаспадарчага развіцця, якія можна было б выкарыстаць на патрэбы вёскі.



**Кнышэвіцкая школа мае свайго музыканта, вучня VII класа, які іграе на танцавальных вечарынах.**



**Кнышэвіцкая вуліца.**

## РАЗМОВА З ДЗЯДЗЬКАМ БАРОДЗІЧАМ

Дзядзьку Шымона Бародзіча сустрэў я ў яго садзе.

— Парадкі робіце, — сказаў я.

— Але, парадкі, — адказаў дзядзька Бародзіч.

Запрапанаваў я дзядзьку Шыману прысесці на снапку саломы ля пуні. — Хачу, каб вы мне што-небудзь расказалі, — сказаў я.

Дзядзька Шыман рассмяяўся шчыра і дабрадушліва.

— Я ніколі яшчэ, — тлумачыў, — не займаўся такімі дурнымі справамі, ды проста баюся.

— О, баяцца няма чаго. Мы будзем гутарыць аб справах зусім не страшных.

— Ну, проста не ведаю, аб чым вам тут плясці. Мой бацька, пакойны, ведаеце, бывала, калі яшчэ жыў, рабіў так. Пад'язджае нейкі незнаёмы пан, ды пытае яго: «Далёка Варшава?» «А тут, паночку, за гэтаю горкаю», — талкаваў стары. «Дурань», — злаваўся незнаёмы. «Ды навошта пытаеш дурня?» — адказаў бацька. І мяне бацька вучыў гэтага самага.

Нягледзячы аднак на гэтыя прынцыповыя засцярогі адносна размоў з чужымі людзьмі, апавядаць розныя падзеі са свайго жыцця дзядзька Бародзіч любіць.

— За маёй памяці Кнышэвічы былі непахожымі на сённяшнюю нашую вёску. цесната, цемната і бруд усюды. А цяпер нават горы ў вёсцы і тыя параскопвалі. І чысціня якая.

Яшчэ момант і з вуснаў дзядзькі Бародзіча пальюцца пераплеценыя з сабою ўспаміны, праўда аб сялянскім мінулым і звычайная Шыманава легенда. Легенда гэта аднак своеасаблівая, якая ўзнікла з сялянскай прывязанасці да фантастыкі, да незвычайнасцей, пераўвелічэнняў, а з другога боку — з прызнання вартасці кніжкі, навукі, прызнання, якога не пазбаўлены нават адзін з найстарэйшых жыхараў Кнышэвіч — Шыман Бародзіч.

Апавядаючы аб глыбокай старыне Кнышэвіч і аколіцы дзядзька Бародзіч паклікаецца не на традыцыю вёскі, а на нейкія прачытаныя ім кніжкі.

— Вёска Кнышэвічы паўстала дзве тысячы гадоў таму назад. Гэта я ў адным старым такім календары прачытаў.

Тут хіба нейкіх два кіламетры ад Кнышэвіч ёсць урочышча Самагруд, ды там нейкі круль польскі (толькі забыўся які) меў свой палац і адпачываў, калі прыязджаў на паляванне.

— У 1913 годзе ў Адэльску школьнікі раскопвалі горку і выкапалі чалавечыя косці. Косць нагі да калена мела два метры даўжыні. Я сам бачыў. Такія людзі тут жылі даўным-даўно. Потым прыехаў на гэтае месца доктар Раман — быў тут такі — сфатаграфаваў косці, змераў і адправіў у музей.

Апавяданне Шымана Бародзіча прадаўжаецца. Зразумела, усё гэта толькі фантазія дзядзькі. Аднак форма, у якой яна пераказваецца, сведчыць, што так дзядзька Бародзіч, як і яго вясковыя слухачы больш уласцівым лічаць паклікацца на кніжку і ўласны вопыт, чымсьці на вясковую вусную традыцыю.

**Ул. Паўлючук**



**Кнышэвіцкія панадворкі.**

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



**На здымку: Калона сцяганосцаў.**

# СЦЯГ ДЛЯ ГАРЦЭРАЎ

Даўжэйшы час гарцэры Бельскага Гуфца складалі абяцанне на сцяг адной з дружын, паколькі агульнагуфцовага не было. З ініцыятывай заснавання сцяга выступіла Павятовая рада прыяцеляў гарцэрства. Па яе ініцыятыве аддзел ўнутраных спраў ВРН дазволіў збіраць грошы сярод насельніцтва на 230 лістах. Заснавальнікамі сцяга, такім чынам, сталіся апрача гарцэраў 5 203 жыхары павета і 43 установы. Часта былі гэта дробныя сумы, але далі яны лік 13 817 зл. і грошы далей уплываюць. Сцяг выканана на суму 17 707,60 зл.

Пераказанне сцяга Гуфцу было надзвычай урачыстае і праводзілася ў двух частках. Першая з іх гэта т. зв. убіванне гвоздзяў фундатарамі сцяга адбылася напярэдадні 1-га Мая ў памяшканні КП ПАРП у Бельску. На урачыстасць прыбылі ўсе члены экзекутывы КП, дырэктары і кіраўнікі прадпрыемстваў і школ. Другая частка была ўключана ва ўрачыстасці 1 Мая. На агромным Першамайскім мітынгу сцяг пераказвае Ю. Пяхоўскі — старшыня Рады прыяцеляў гарцэрства Збышку Камяноўскаму — намесніку каменданта беластоцкай харугві ЗГП, які чытае спецыяльны загад каменданта харугві. Ад гэтай пары сцяг стаецца ўласнасцю Гуфца. Урачыстасць надта ўзнёслая. На яе прыехалі гарцэры з адлеглых вёсак і мясцовасцей: Райска і Бранска, з Войшак, Левак і інш. З. Камяноўскі зыходзіць з трыбуны і пераказвае сцяг каменданту Гуфца Яну Пясчынскаму. Ваенны духавы аркестр грае генеральскі марш. Калона сцяганосцаў абносіць сцяг з павагай і гарцэрскай пашанай, на проставугольніку, на якім устанавілася амаль тысячная група гарцэраў і зухаў. Адсюль сцяг першы раз уключаецца ў Першамайскі паход.

Ахвяраванне сцяга Бельскаму гуфцу не прыпадковае. Ужо ад некалькіх год выказваецца ён працай у карысць грамадзян Бельшчыны. Займаюць яны пярэднія месцы ў розных акцыях арганізаваных цэнтральнымі ўладамі. Даскадала выказалі сваю спраўнасць і зрэласць у вясеннім «Алерце I». Гарцэрства ў павеце ўмацавалася і разраслося за апошнія пяць год. I так: у 1961 г. 63 дружыны — 1402 гарцэры, у 1963 г. 175 дружын і 5 142 гарцэры, а ў 1966 229 дружын і 6 710 гарцэраў. Калі разыходзіцца пра лік гарцэраў у адносінах наогул да моладзі ў гарцэрскім узросце выносіць гэта больш 60%, і ў сувязі з тым у ваяводстве займае першае месца.

Думаем, што новаатрыманы сцяг таксама забавяжа гарцэраў Бельшчыны да масавага і як найлепш праведзенага «Алерту II» — Гарцэрскай Разведкі Тысячагоддзя. (ак)



**На здымку: Мемарыяльны гвоздзь забівае I-ы сакратар ПК ПАРП Ул. Міхалюк.**

Фота А. Карпюк

# КАРЫСНА І АРЫГІНАЛЬНА

Своеасабліва адзначаюць Тысячагоддзе дзяржавы школьныя праўленні ЗМС. У гэтым годзе ўведзена тут цікавую форму працы — папулярна-навуковыя сесіі. Першую папулярна-навуковую сесію сарганізавала Лясное тэхнікум у Белавежы на тэму барацьбы партызан з нямецкімі захопнікамі ў тых аколіцах. У гэтай сесіі прыймалі ўдзел настаўнікі — апекуны ўсіх школьных груп ЗМС і старшыні праўленняў.

26 красавіка г. г. нас запрасіла школьнае праўленне ЗМС пры Ліцэі акушэрак у Беластоку на сваю папулярна-навуковую сесію. Тэмай яе было: «Слаўныя людзі Беласточчыны». Прыемна быць на такім сходзе, бо і сам сход арыгінальны, без прэзідыума і трыбун. Проста прысутныя селі за сталы. Дакладчыкамі з'яўляліся вучаніцы, тыя ў чырвоных гальштуках (чыны ЗМС) і ў шэрых хвартухах (несарганізаваныя). Падаюць прозвішчы славутых нашых землякоў і словы аб іх заслугах. Пачынаецца сесія дакладам аб Якубе Феліксе Мехілісе слаўным хірургу і гінеколагу, заснавальніку першай у Беластоку школы акушэрак. Затым аб Кшыштафе Клюку з Цеханоўца — «польскім Дарвіне» як яго завуць некаторыя, Браніславе Шварцу, Кастусю Каліноўскім, Валерыю Врублеўскім і аб многіх іншых слаўных людзях. Дакладчыкі, як гэта належыць, падаюць бібліяграфію, якую выкарыстоўвалі пры апрацоўцы.

Арганізацыйна вельмі добра ўсё ўстаноўлена. На зале знаходзіцца кінаапарат і эпідыяскоп, пры дапамозе якіх былі ілюстраваны даклады. Аб М. Канапніцкай нельга гаварыць без ілюстрацыі яе творчасці рэцытацыяй або песняй на яе словы, і таму арганізатары прадбачылі гэта ў сваёй праграме, а дзяўчаты спявалі вельмі прыгожа і часамі прысутных парывалі да спеву. У адной зале прыгожая выстаўка. Тут паказаны гербы Польшчы на працягу 1000-годдзя, студзеньскае паўстанне 1863 г., фотаздымкі «Беласток учора і сёння» і інш. Многія экспанаты вучаніцы пазычалі ў прадпрыемствах і ў прыватных асоб, а перш за ўсё ў Я. Антанюка.

Адным словам мерапрыемства вельмі ўданае. Шкада толькі, што ў параўнанні да ўкладзенай працы так вузкі круг вучняў з яе карыстае (толькі адной школы). А трэба сказаць, што працы ўлажылі надзвычай многа. Адна з вучаніц ездзіла нават у Цехановец, каб здабыць матэрыялы аб Клюку. Было б пажаданым, каб Ваяводскае праўленне ЗМС перадумала справу арганізавання такіх сесій для некалькіх школ аднаго і таго ж «рэсорту».

**А. Карпюк**

З ЖЫЦЦЯ БГКТ

# „ГАРАДСКІЯ ГОСЦІ" Ў СУХІНІЧАХ

Што існуе драмгурток у Сухінічах сталася амаль гісторыяй. У аколіцы кожны ведае, што больш усяго ставяць яны п'есы на сваёй роднай, беларускай мове. У арганізацыі пастановак прыймаюць актыўны ўдзел члены мясцовага гуртка ЗМВ і БГКТ. Зрэшты, членамі адной і другой арганізацыі з'яўляюцца тыя самыя юнакі.

«Гарадскія госці» ў Сухінічах ставіліся ў красавіку. Пастаноўка сцягнула многа людзей. Трэба сказаць, што спадабалася яна і гледачам і самым «артыстам». Гэта заахвоціла самадзейнікаў выехаць з п'есай у Сакаляны і ў іншыя мясцовасці. Выдатную дапамогу калектыву аказвае настаўніца Лідзія Андрэюк, якая з'яўляецца не толькі арганізатарам і рэжысёрам, але сама выконвае адну ролю ў п'есе. Прытым трэба сказаць, што набытыя веды ў Педагагічным ліцэі ў галіне драмгуртקоў іменна тут можа поўнасцю пераўтварыць у рэчаіснасць.

За даход з білетаў калектыў рашыў дапамагчы ў пакупцы заслоны на сцэну ў школе, дзе і працуюць самадзейнікі. А таксама частку грошай уплаціць на Грамадскі фонд пабудовы школ і інтэрнатаў. (ак)

# PLEBISCYT CZYTELNICZY

Zarząd Główny Ligi Obrony Kraju zorganizował wielki konkurs czytelniczy na książkę o naszych dziejach ojczystych „Pod znakiem Orła Białego". Warunkiem uczestnictwa w konkursie jest przeczytanie co najmniej trzech książek z listy lektury, wypełnienie kuponu plebiscytowego i złożenie go u prezesa swojego koła LOK, bądź też w Zarządzie Miejskim lub Powiatowym LOK, w terminie do 5 czerwca br. Wśród uczestników konkursu rozlosowane zostaną nagrody m. in. motorower „Komar", zegarki, teczki, książki itp.

**Lista lektury do konkursu:**

A. F. Grabski — „Bolesław Chrobry"
P. Jasienica — „Polska Piastów"
K. Bunsch — „Psie Pole"
P. Jasienica — „Polska Jagiellonów"
S. Szenic — „Mars i Syrena"
J. Płażewski — „Szabla i pióro"
T. Pietrzak — „Podziemny front"
W. Czyżewski — „Więc żarepetuj broń"
J. Pertek — „Wielkie dni małej floty"
F. Księżarczyk — „Droga w ogniu"
J. Przymanowski — „Czterej pancerni i pies"
J. Meisner — „Warszawa kurs na Berlin"
Z. Załuski — „Przepustka do historii".

**KUPON KONKURSOWY**

1. Wymień te tytuły książek z listy lektury, które przeczytałeś:

a)

b)

c)

2. Która z książek wymienionych na liście lektury najbardziej ci się podobała, jest twoim zdaniem najciekawsza? Dlaczego? Uzasadnij swój wybór. (Wypowiedź przedstawić na oddzielnej kartce).
3. Imie i nazwisko uczestnika. Miejsce pracy (służby). Miejscowość.

własnoręczny podpis

# БУРШ НА ГАЛЕРЦЫ

Найбольш супярэчныя думкі выказваюцца аб творчасці Бурша. Большасць чытачоў наракае на залішнюю ўскладнёнасць яго твораў — людзі не разумеюць транспанаванай Буршам думкі. Другія — наадварот — прызнаюць Буршу пачэснае месца сярод «белавежскіх» лірыкаў, даючы яго творчасці эпітэты: сучасная, элітарная, камеральная, з асацыяцыйным унутраным светам і т. п. супэрлятывы.

Інспіратарам чалавечай творчасці напэўна з'яўляецца жыццёвы вопыт, перажытае ўздоўж і ўпоперак, асабістыя суадносіны з рэальным светам. Інспіруючыя факты бываюць часта вельмі добрымі ключамі да адчытання творчасці. Бурша жыццё — незавіднае. Гэты чалавек жыве ў створаным сабою герметычным свеце ілюзій і фарбаў, абмануты самім сабою і апантаны думкай аб беспамылковасці і велічыні. Гэты чалавек выкінуў з сябе крытыку і іронію і нікому не пазваляе набліжацца з такімі інструментамі да сваіх вершаў, якія з'яўляюцца не чым другім, як першым, непрадуманым і часта-густа невыразным запісам цячэння думкі, непадпарадкаванай ніякім вышэйшым катэгорыям (ідэям).

Пры асацыяцыйным характары думкі, пры густай метафарычнасці паўстае складанасць у паэзіі. I надзвычай добра, калі аўтар выражае складаную глыбіню свайго лірычнага «я», сваіх пачуццяў і інтэлекта, калі чытачу разгадка аўтара дае эстэтычную радасць, узбагачае яго. Але калі складанасць з'яўляецца бар'ерам паміж аўтарам і чытачом, калі літаратурны факт — гэта галаваломка, рэбус, і калі, разгадаўшы такі рэбус, чытач бачыць, што яго абманулі ігрой у складанасць і што гэтая складанасць нічога не варта — гэта дрэнна. Аўтар пачынае паказваць сваю адукацыю і гаворыць аб незразумелым. Раскрываецца глыбіня — але псеўдаінтэлектуальная.

Бурш піша гератычнай моваю. Ён ведае, дзе ляжыць наіўнасць у паэзіі, і што трэба рабіць, каб яго паэтычная канвенцыя была сучаснай. Ён пераносіць на паперу свой стэрэатыповы ўжо ўнутраны пейзаж, ён пазбягае выразнага вобразнага малявання і ўжывае не метафар, а іх частак, каб такім чынам яны мацней эпатавалі чытача (прыклады з яго зборніка «Прамень думкі»: знюхаў цеплыню, формы ілюзіі, матыў замоўчвання, слізкасць устанаўленняў, каб спазніцца да сведамасці, няшчасце зачаравання, праманада фантазіі, сваволі шалаш, кантакт прадбачлівасці, клавішы думкі, берагі вывадаў, арбіта інстынктаў, відовішча шчырасці, катушка цярпення і др.).

I цяжка такога чалавека злапаць за руку, таму што ўсё ёсць магчымае. Магчымае — гэта факт. Але з якой мэтай пабудаваны гэтыя канструкцыі? Зразумела, калі валяць баракі, каб на іх месцы паставіць новыя дамы! Але Бурш ставіць знакі запытання ў пустаце. Да кавалкаў рэчаіснасці падвешвае цяжар безнадзейнасці. У яго няма амбіцыі сканструяваць з паасобных элементаў сістэмы чалавечых абавязкаў у шырокім разуменні слова. Ён астаецца прэтэнцыёзным у вобразе і прэтэнцыёзным, калі яго няма. I пакідае сабе адзіны аргумент, якім хоча ваяваць, — гэта архітэктура паводле жадання.

Нецікава прадстаўляецца справа інтуіцыі і фармальнага эксперымента. Інтуіцыю Буршу трэба асабліва правяраць, а фармальным пошукам — патэнцыянальнай пагрозе адрыва ад чытача — ён аддаўся са ўсёй сваёй шчодрасцю. А чым ёсць размова не звернутая да нікога? Цікава, што чалавек не пробуе новых мастацкіх сродкаў, што абапіраецца на зашорганых словах і фразах!

Манернае надужыванне слова вядзе да таго, што слова перастае дзейнічаць на ўражлівасць чытача. Слова паказвае свой паперкавы выгляд. Ці ж Бурш — мастак не ведае аб гэтым?

М. Гайдук у артыкуле «Паэт нашых мараў» піша: «Творчасць Я. Бурша пазбаўлена якой-колечы таннай сентыментальнасці, хныкаючай слязлівасці, дакучлівай хадульнай высокапарнасці... яго філасофскі роздум пазбаўлены спаквальнай млявасці, ён... повен напружанасці ўнутраных сіл, жыва адклікаецца на падзеі ў знешнім акружаючым яго свеце...» і далей ідзе сказ пастаўлены нашторц: «...абмежаванасць да аналізу нюансаў псіхічнага жыцця чалавека» (?) Гэта ўсё яўна выліваецца праз берагі! Хаця гэта факт, што ў Бурша няма сентыментальнасці, але разам з гэтым у яго творах няма аніякай пачуццёвасці. Гэта тавар лёгкастраўны эстэтычна, палітычна і маральна.

Гаворыцца таксама, што Бурш — сучасны. Як гэта разумець? Сучасны ў будове верша, у мастацкіх сродках, у тэматыцы, у тым, што не ўжывае знакаў пунктуацыі і рыфмы, ці можа ў незразумеласці? Бо мова незразумелая ў снобаў мае магічную функцыю, яна асабліва дзейнічае на іх свядомасць. Здаецца, што некаторыя так і разумеюць гэтую буршаўскую сучаснасць. Мне здаецца, што Буршу няма сэнсу цурацца рэальнага свету і чытача і ўпарта спасылацца на тое, што калі не мы, то будучае пакаленне адчытае яго творчасць. На двое бабка варажыла.

**I. Чыквін**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Сельская гаспадарка без таямніц

# Гайнаўская жывёлагадоўля (2)

Вопытны жывёлагадоўца добра ведае, што напрамкі жывёлагадоўлі перш за ўсё залежаць ад глебава-кліматычных умоў. Вельмі важныя традыцыі, патрэбы, прызвычаенні, але яны не могуць быць у супярэчнасці з падставай эканомікі.

Таму ў краіне выдзяляюцца раёны гадоўлі рагатай жывёлы, свіней, вырошчвання хмелю ці цукровых буракоў. У кожным ваяводстве існуе таксама падзел на раёны. Паветы апрацоўваюць свае планы згодна з умовамі на сваёй тэрыторыі.

У гайнаўскай жывёлагадоўлі прыняты прынцыпы раяніравання. Тэрыторыя падзелена на 4 раёны:

I раён — Новаберазова, Чыжы, Старое Корніна, Ласінка, Дубіны. Тут асноўная ўвага звернута на жывёлагадоўлю, паляпшэнне якасці кароў. Тут лепш трэба кантраляваць прадукцыйнасць кароў, вастрэй трымацца селекцыі і дабору.

II раён — Кленікі, Нарва, Трасцянка, Кляшчэлі, Чарэмха. Тут жывёлагадоўля слаба яшчэ развіта. Аднак прыродныя ўмовы (шмат добрых лугоў і выганаў) ствараюць магчымасць хуткага павелічэння пагалоўя і паляпшэння якасці жывёлы.

Рэшта павета (III і IV раёны) мае горшыя глебы і параўнаўча нізкі ўзровень жывёлагадоўлі. Тут трэба развіваць жывёлагадоўлю, дбаць аб паляпшэнні кармавой гаспадаркі, старацца дастаць высакаякасных расплоднікаў. Але ў тых раёнах нельга яшчэ гаварыць аб інтэнсіфікацыі жывёлагадоўлі. Такі падзел на раёны — гэта не фармальнасць. Ён патрэбны для правільнага правядзення ў жыццё жывёлагадоўчай палітыкі. Адным з элементаў гэтай палітыкі з'яўляецца размяшчэнне найлепшых расплоднікаў. У 1964 годзе ў павеце было 122 расплоднікі (на кожнага прыпадала па 140 кароў), а ў мінулым годзе — 137 (135 — кароў). Але гайнаўская жывёлагадоўля ўсё яшчэ патрабуе больш добрых бугаёў, бо іменна яны з'яўляюцца асновай паляпшэння якасці пагалоўя рагатай жывёлы.

Бугая знайсці не цяжка. Толькі справа ў тым, які ён, якая яго якасць, ці можа ён паправіць якасць пагалоўя і прадукцыйнасць. Меркаванне, што кожны бугай добры, ўсё больш адыходзіць у мінулае. Сяляне ведаюць, што бугай перадае нашчадкам свае прыроджаныя рысы. Ад яго якасці залежыць прадукцыйнасць кароў. Вядома, не ўсе сяляне гэта так добра разумеюць. Можна яшчэ сустрэць непародзістых бугаёў. У мінулым годзе ў Гайнаўскім павеце былі арганізаваны тры масавыя кастрацыі, у час якіх ліквідавана 1208 расплоднікаў. Многія з іх засталіся б на вёсцы, каб аб гэтым вырашалі самі сяляне. Але калі непародзістыя бугаі застануцца, могуць прынесці нямала шкоды жывёлагадоўлі.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

## ВАЯВОДСТВА

**(Працяг са стар. 2)**

вырошчванне агародніны, фруктаў і пчалаводства. Многія жыхары малых пасёлкаў і мястэчак, у якіх па аднаму-два гектары поля, маглі б заняцца гэтай даходовай прадукцыяй. Асабліва вялікае запатрабаванне на раннюю агародніну з цяпліц.

План актывізацыі гаспадарча адсталых паветаў адводзіў шмат месца і ўвагі для прыватнага рамяства. Што ж, калі да плана не хапіла звыш 1300 рамесніцкіх пунктаў. Найбольш падвяло ваяводскае рамесніцкае аб'яднанне. Не хапіла яму да плана аж 1223 рамесніцкія пункты. Каб заахвоціць усіх тых, хто хацеў бы заняцца рамяством, згодна з пастановай цэнтральных улад, прадбачваецца для рамеснікаў шматзначныя ільготы. **Хто цяпер абсталюе рамесніцкую майстэрню, да 1970 года не будзе плаціць падатку, а калі рамяством займаецца селянін і гадавы даход яго майстэрні не перавышае 50 тысяч зл., дык зусім не будзе плаціць падатку.** Усё, што планавалася на папярэднія гады, па меры магчымасці будзе ажыццяўляцца ў гэтай пяцігодцы. План папоўніўся новымі патрэбамі. Перш за ўсё будуюць новыя і разбудоўваюць старыя ПОМ-ы і іх філіялы. Гэта неабходнае для абслугоўвання шпарка растучай машына-трактарнай базы.

Савет Міністраў пастанавіў стварыць спецыяльны фонд развіцця малых пасёлкаў і мястэчак, у якіх колькасць жыхараў не перавышае 5-ці тысяч. Адносілася б гэта да Харошчы, Супраслі, Заблудава, Дубровы, Нарвы, Кляшчэляў, Нараўкі і некаторых другіх мясцовасцей. Фондам распараджаецца банк, і ён прызнае пазыкі — перш за ўсё на разбудову і будову невялікіх прадпрыемстваў, якія да сваёй прадукцыі выкарыстоўваюць мясцовую сыравіну. Пазыкі апрацэнтаваныя на 1% у год.

Ваяводская рада не забывае аб сваіх найбяднейшых. Вось на сесіі 25 красавіка г. г. радныя зноў прысвяцілі шмат увагі іх жыццёвым праблемам.

**В. Рудчык**

---

**Легенды нашай вёскі**

## ПРЫТРЫМАЎ

Вёз мужык пана. Калі праязджалі пад дрэвамі, мужык ухапіўся за галлю ды пусціў з усяе сілы. Галля трэснула пана ў вочы.

«Што ты робіш, сабака, — кажа пан, — трэснуў мне галлёю, што аж у вачах пазелянела».

«Ой, паночку, — кажа мужык, — вы б наогул засталіся без вачэй, калі б я галля не прытрымаў».

«Ну, дык добра зрабіў, што прытрымаў», — сказаў пан і даў мужыку 5 рублёў.

**Яфім Радчук**
Дашы

## ТУРЫСТЫКА

**(Працяг са стар. 1)**

**ма дзе дастаць таннага аўтокара. І такім чынам палова атракцыйнай і надзвычай карыснай працы гуртка адпала. Пры шматлікіх гуртках БГКТ дзейнічаюць тэатральныя калектывы, якія адплатна даюць свае пастаноўкі і такім чынам збіраюцца пэўныя сумы грошай. Паўстае праблема, што зрабіць з імі. Некаторыя гурткі за гэтыя грошы рамантуюць святліцы, купляюць светлівыя прылады як: тэлевізары, грамафоны, магнетафоны, але і бываюць, на жаль, і такія здарэнні, калі гэтыя грошы прапіваюць. Вельмі добрым укладаннем запрацаваных супольна грошай з'яўляецца арганізаванне турыстычна-краязнаўчых экскурсій.**

**С. ФІЛІПЮК**
Паўлы

# СМЕРЦЬ МАЕ ДОЎГІЯ РУКІ

Дубічы Асочныя. Звычайная вёска ў Гайнаўскім павеце. Раскінулася побач жалезнай дарогі, недалёка ад шашы, па якой часта імчацца аўтобусы. Значыць, з Дубічаў Асочных у шырокі свет бы рукой падаць. У вёсцы: школа, сельскагаспадарчы гурток і партарганізацыя.

А ўсё ж, калі толькі здарыцца мне пабываць там, неяк, наперакор розуму і волі, сэрца пачынае мацней біць ад усхвалявання. Іду вуліцай і крадком, бы злодзей, азіраюся за сябе, каб пераканацца, ці не даганяе мяне хто-небудзь з сякерай або кінжалам. Ведаю, што гэта дурнота, але не магу інакш.

Вечар быў таксама цёмны, як і тады, 9-га кастрычніка 1964 года. Вароты заскрыпелі неяк жаласна. А можа мне толькі так здалося? І ў той жа момант у мазгах адазваўся сігнал: так, гэта тут ён стаяў са сваім братам, тут дапаў да яго Карпюк з сякерай, а браты Бурачыкі дапамагалі Карпюку кінжалам і ломам. У гэтых варотах яму, ужо мёртваму, рубалі ногі і плечы калолі кінжалам. (Трагедыю ў Дубічах Асочных дакладна апісаў я ў «Ніве» ад 6-га чэрвеня 1965 года).

Потым адбыўся суд. Найперш у Беластоку, а затым у Варшаве. Забойцу Кастуся Тэрэшука — Мікалая Карпюка засудзілі на пажыццёвае зняволенне. Яго памочнікаў — Васіля Бурачыка да 12-ці год, Яна Бурачыка — да 10-ці год турмы.

Яна адна і трое дзяцей: Ваня — 7 год, Коля — 11 год і Сашка — 13 год. Пад печкай прысела, выціраючы заўсёды заплаканыя вочы, бабулька Матрона. Яе тады таксама ледзь не прыкончылі. Твары бледныя, вопратка старэнькая, у хаце беднавата.

— Інвалідкай я засталася, — уздыхае ўдава Марыя. — Самі ведаеце, да гаспадаркі трэба моцных рук, а мне цяжка нават кошык бульбы падняць. Руку, праклятыя, перабілі. І ў галаве пастаянна кружыцца. Там жа сем ран было. Прыходзіцца браць трактар і людзей да ўсяго наймаць. Але гэта дорага каштуе. А мне адкуль грошы браць? Я ж на заработак не паеду. Суд прысудзіў быў мне 4 тысячы зл. адшкадавання. Прыслалі толькі паўтары тысячы. Карпюкова жонка хітрая. Усё, што было, папрадавала і сваякам раздала. Каморніку няма чаго браць. А яна краўчыха, грошай удосталь зарабляе. А я ўжо мужаву «Яву» прадала, машыны, вопратку прадаю. Дзеці ў школу ходзяць. Абуцца і апрануцца трэба. А мне адкуль на ўсё браць?

— Ведаю, цяжка ёй, — сцвярджае гаспадар Новаберазоўскай грамады, Уладзімір Стэпанюк. — Пакуль што Тэрэшукова не мае залегласцей у падатках і абавязкавых пастаўках. Частку сама аддала, а рэшту мы ёй даравалі. Але так без канца не можа быць. Не дазваляюць дзяржаўныя распараджэнні.

— І што тады? — пытаю. Старшыня паціскае плячыма. Змяняем тэму.

— Людзі адносяцца да яе па-рознаму, — кажа Стэпанюк. — Адны спачуваюць, а другія... вось не так даўно падкінулі ёй старую вінтоўку. Мсцяцца сем'і засуджаных.

Старшыня сельгасгуртка ў Дубічах Асочных падобнага меркавання. Ён яшчэ дабаўляе:

— Тэрэшуковай даем свае машыны, як і ўсім другім сялянам, але без заплаты не можам. Яна спрагаецца з адным тутэйшым гаспадаром і ён ёй дапамагае.

Зайшоў я яшчэ да настаўніцы тутэйшай чатырохкласнай школы, Антаніны Падолец.

— У Тэрэшукоў — бяда, — кажа яна. — Пісала я ў Інспектарат асветы, каб далі для яе дзяцей дапамогу, але не прызналі, даходовасць мабыць завысокая. У мяне вучыцца Коля, у чацвёртым класе. Слабы з яго вучань. Старэйшы сын, Сашка, ходзіць ужо ў новаберазоўскую школу. Але маці часта пакідае яго дома, каб памагаў у полі. Іх бы аддаць у дзяржаўны дзіцячы дом.

— Сэрца баліць глядзець, — гаворыць солтысава жонка, — калі бачыш, як гэтае дзіця, Сашка значыць, змагаецца з касой на сенажаці або на полі. З-за травы ці канюшыны ледзь яго відаць, а ён, бедны, аж ад вуха гэтай касой...

— Можа вам пасвяціць ліхтаром? — прапануе Тэрэшукова, калі зайшоў я развітацца, а бабуля Матрона дабаўляе:

— Часта здараецца, што вечарам, калі цёмна, хтосьці ў наш бок каменнямі кідае. Баімося з хаты выйсці.

Прашу шафёра, каб хутчэй ехаў. Чаго ўцякаю? Ці перад бядою ўдавы Марыі і яе сіротак? Які іх лёс чакае? Хто будзе старацца, каб не сядзелі яны галоднымі? Хто іх пашле ў школу, каб навучыліся нейкай карыснай прафесіі? Хто заплоціць за інтэрнат, за харчаванне?

А дзеці Карпюка? Іх жа таксама двое маленькіх засталося. За што яны маюць цярпець?

Ох, доўгія рукі мае слепая смерць!

**В. Рудчык**



**На здымку: Марыя Тэрэшук са сваімі сіроткамі.**

Фота С. Грынявецкі

# КУЛЬТУРНЫ АГЛЯД

Сённяшні наш агляд прысвецім багатым «Дням асветы, кніжкі і прэсы».

**ТВОЙ ДЗЕНЬ**

Многія мелі свой Дзень у «Днях». 5. V. быў Днём прэсы і радыё. 6 — Днём фільму, 7 — Днём мастака з выстаўкай «Малярства XIX і XX стагоддзя», 8 — Днём кніжкі з цікавай выстаўкай у ваяводскай бібліятэцы «З кніжкай праз стагоддзі», 9 — Днём тэатру. Свой дзень тэатр Вянгеркі сустрэў слаўнай п'есай швейцара Дзюрэнмата «Фізікі». 10. V. быў Днём паэзіі, 13 — Днём музыкі, 15 — Днём дзеяча культуры.

**СЕЙМІКІ**

Ад 15 мая пачаліся ў паветах культурныя сеймікі, на якія з'язджаюцца дзеячы з вёсак, каб разабрацца, як лепш працаваць. На сейміках выбяраюцца дэлегаты на Кангрэс Культуры Польскай у Варшаве — 7—9 кастрычніка. З Беласточчыны паедзе 35 асоб.

**АКЦЫЯ З ТЫСЯЧЫ**

29 мая мы назавем Днём вёскі. Гэта: Народнае свята і заканчэнне «Дні асветы, кніжкі і прэсы». У гэты дзень адбудзецца многа цікавых мерапрыемстваў. Адно з іх арганізуе рэдакцыя «Наша весь» разам з Домам кнігі і сельскагаспадарчымі гурткамі. Адбудзецца вялікі продаж гаспадарчых кніжак, які ахопіць тры тысячы вёсак. У 1000 вёсках будуць у гэты дзень сталыя пункты продажу кніг у кіёсках, клубах «Руху». Акрамя гэтага будзе 700 пунктаў аб'язных — 400 на машынах, 300 на матацыклах. Акцыя выклікала вялікае зацікаўленне ў краіне. Усе хваляць Беласточчыну за ініцыятыву.

**КАНЦЭРТ СІЛЬВІІ**

Адзін з лепшых канцэртаў Беластоцкага сімфанічнага аркестра адбыўся ў апошні час. Канцэрт C-dur на фартэпіяна іграла Сільвія Мерсер — маладая француженка. Два яе канцэрты ў Беластоку былі апошнімі ў Польшчы. З Сільвіяй Мерсер прыехала яе мама для нагляду за слаўнай дачкой.

**З БЕЛАВЕЖЫ**

Белавежская пушча ажыла, вітае вясну. Але вясна не ўсюды так чароўная, як у Белавежскай пушчы. Прыяцелі Белавежы прыпомнілі сваім слухачам аб Антарктыдзе, дзе вечны лёд, у чарговай лекцыі дра Уладзіміра Хелхоўскага з Варшавы. (вл)



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



На здымку: Тыповы горад на Аравійскім паўвостраве.

# ШЧАСЛІВАЯ АРАВІЯ

Аднаго дня па слаўнай сталіцы караля Саламона разышліся чуткі, што набліжаецца караван каралевы Сабы з далёкай Аравіі. Народ вышаў на вуліцы, каб пабачыць экзатычную каралеву.

«І ўехаўшы ў Ерусалім з вялікаю світаю і багацтвам, а вярблюды неслі рэчы пахучыя і золата без ліку і каменні дарагія. Не прайшло ніколі так многа цудоўных рэчаў, як тыя, што дала каралева Саба каралю Саламону».

Саламон усцешаны падарункамі і зачараваны прыгажосцю каралевы запалаў да яе вялікім мілаваннем. Відаць, каралева не надта супраціўлялася, бо неўзабаве нарадзіўся ў іх сын, які ў Эфіёпіі па сённяшні дзень лічыцца пачынальнікам пануючай дынастыі імператараў.

Столькі гаворыць легенда аб сустрэчы каралевы Сабы з каралём Саламонам. Аднак у кожнай легендзе ёсць зерне праўды. Праўда, што каралева дзяржавы Саба ў паўднёвай Аравіі вядомая як каралева Саба, наведала караля Саламона прывозячы яму багатыя падарункі. Але прыбыла яна да яго не тольлі, скажам, у адведкі — яе падарункі павінны былі зрабіць акрэслены ўплыў на караля Саламона.

Праз тэрыторыю Ізраіля праходзіў гандлёвы шлях, па якім сабійцы вазілі на вярблюдах свае тавары да краін у басейне Міжземнага мора і ў Месапатамію. Старанлівая каралева вырашыла на ўсякі выпадак здабыць прыязнь магутнага караля Ізраіля Саламона, каб сабійцы мелі неабмежаваныя магчымасці гандлю. Пастанова каралевы была разумная, бо праўдападобна Саламон рыхтаваў ваенны паход у сабійскую зямлю. Саламон даведаўся пра багацці дзяржавы Сабы.

Было гэта тысяча год да нашай эры (тры тысячы год таму назад) і сабійская дзяржава сапраўды перажывала свае вялікія часы росквіту, багацця і дабрабыту. Што склалася на росквіт гэтай гарыстай краіны з недаступнымі пустынямі і сухім, гарачым кліматам?

Справа ў тым, што першыя валадары сабійскай дзяржавы былі надзвычай добрымі гаспадарамі. Знайшлі спосаб на сухі і гарачы клімат. Пачалі арганізаваць навадненне глебы, якая з сухой пустыні хутка стала ўраджайнай. Вялікая, дваццаць метраў высокая гаць перагарадзіла раку Адханат, з якой разводзілася вада па сістэме каналаў у палях. У такім клімаце ўраджаі могуць быць толькі багатымі, усё залежыць ад дастатку вады.

Сабійцы вырошчвалі, перад усім, карэнеплоды, якія вывозілі пасля на гандаль у Фінікію, Сірыю, Егіпет. З таго часу арабы верылі, што ў аколіцах Гор Цярплівасці (Джэбель Сабр) растуць усе расліны свету. Чуткі аб вялікім дабрабыце ў гэтай дзяржаве разыходзіліся па ўсім тагачасным свеце.

Сталіцаю валадароў Сабы з'яўляўся горад Марыб, які знаходзіўся высока ў гарах. У сталіцы будаваліся вялікія гмахі, а сярод іх найпрыгажэйшы гмах святыні Харам Бількіс з цудоўнымі каланадамі, бронзавымі ўсходамі і фантанамі.

Росквіт дзяржавы Саба пратрываў доўгія вякі. У рымскія часы сабійцы былі, як піша летапісец, «найбольш багатым народам на свеце, бо знаходзіліся яны якраз пасярэдзіне гандлю паміж Афрыкай і Азіяй». Рымяне назвалі гэту краіну Шчаслівай Аравіяй. У першым стагоддзі да нашай эры рымляне сарганізавалі нават ваенны паход, каб загарнуць багацці Аравіі. Аднак ваяўнічыя рымскія легіёны не здолелі прабрацца праз пяскі пустыняў і Шчаслівая Аравія засталася некранутай.

У палове VII ст. Сабу пакарылі арабскія заваёўнікі; ісламская рэлігія стала пануючай. Каралеўства пераўтворана ў арабскую правінцыю, зменена назву на Йемен. Тым не менш гэта краіна надалей заставалася найбольш цывілізаванай, культурнай і заможнай ва ўсім тагачасным свеце.

З часам аднак безупынныя войны, рабункі і гвалты давялі краіну да поўнага знішчэння, спусташэння. Знішчана каналы, гаці, акведукты, а ўраджайныя некалі палі пераўтвapыліся ў сыпучую пясковую пустыню.

Багатая, двухтысячная культура засталася забытай. Аб росквіце дзяржавы Сабы засталіся толькі легенды. Пацвердзілі іх археолагі, якія адкрылі ў XIX ст. руіны будоўляў даўняй Шчаслівай Аравіі. (а-ся)

ЦУДЫ НАШАГА ВЕКУ

# САМАХОД НА АКУМУЛЯТАР

Магчыма, што ў Беластоку ці ў Варшаве прышлося бачыць вам на станцыі, як механічнымі возікамі адвозяць груз з таварных вагонаў. Гэтыя самаходзікі чэрпаюць энергію з акумулятараў — такіх самых, якія знаходзяцца пры кожным матацыкле, толькі шмат мацнейшых. Для масавага пасажырскага і таварнага транспарту яны непрыгодныя. Таму дагэтуль з электраэнергіі карысталі ў гарадах толькі тралейбусы і трамваі. Іх рухлівасць аднак абмяжоўвае электралінія, якая падае ток у рухавік. Канструктары аднак безупынна намагаюцца стварыць выгодны і танны спосаб пераўтварэння энергіі хімікатаў (у тым ліку і бензіну) непасрэдна ў электраэнергію. Ёсць ужо першыя вынікі. Створана, напрыклад, спецыяльны акумулятар электраэнергіі на гаручае. (Працэс пераўтварэння гаручага ў гэтым акумулятары ў электраэнергію вельмі складаны і таму яго не будзем тут апісваць). Спраўнасць гэтага акумулятара (пакуль што ў лабараторыях) перавышае на 10—15 разоў дагэтуль вядомыя акумулятары электраэнергіі.

На аснове новага акумулятара распрацавана праект невялікага асабовага аўтамабіля.

Сіла яго каля 5,5 механічных коней (4 ваты). Развівае ён хуткасць да 70-ці км у гадзіну, а найважнейшае, што на 100 км патрабуе толькі аднаго літра гаручага (бензіну). Для параўнання: самаход «Варшава» з'ядае да 15-ці літраў бензіну на 100 км дарогі. Электрычны самаход, якога не будуць абмяжоўваць драты электраліній, паявіцца на дарогах свету, як прадбачваюць спецыялісты, за 2—3 гады. На працягу бліжэйшага дзесяцігоддзя станецца ён так папулярны, як цяпер нармальны аўтамабіль. На жаль, хіба не ў нас?

**Нейтрына**

МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

# ЯКУЮ ХОЧАШ ЖОНКУ?

У Заходняй Германіі мужчыны на першым месцы на пытанне, якая павінна быць жонка, ставяць: ашчадная, верная, чыстая. Характво не адыгрывае ролі. На апошнім месцы ў вымогах мужчын аказалася інтэлігенцыя жонкі. Як відаць, еўрапейскія мужчыны не надта розняцца ад афрыканскіх у адносінах да жонкі. (авл)

# КОЛЬКІ ДЗЁН МОЖНА НЕ ЕСЦІ?

Як бы гэта не было дзіўна, але ў наш атамна-касмічны век штогод дзвесце тысяч людзей ахвяр забіраюць акіяны. З гэтага ліку 50 тысяч гібне ў шлюпках на 3—6 дзень пасля караблекрушэння, калі рэальная небяспека фактычна мінула.

Гэтыя людзі ўміраюць ад голаду. Хаця ў апошнія гады многія вучоныя даходзяць да вываду, што асноўная частка гэтых 50 тысяч уміpае не ад голаду, а... страху перад ім. Ці чалавек можа перамагчы голад а заадно і страх? Такі эксперымент правёў некалькі год таму назад малады савецкі вучоны В. Лешкаўцэў, хаця і не з чыста навуковай мэтай.

У 1960 годзе ён вельмі цяжка захварэў на параліч суставаў. Лячылі яго ўсімі сучаснымі метадамі. Але хвароба ўсільвалася. Лешкаўцэў ужо не ўставаў.

Тады малады біяфізік пусціўся на рызыкоўны дослед. Яму ўспомнілася, што ў 1952 годзе ён пазнаёміўся з Н. П. Нарбекавым, кіраўніком лячэбнага аддзялення спецыяльнага галадання Навукова-даследчага інстытута курорталогіі.

Прымяняючы арыгінальны метад (поўны трохтыднёвы голад з наступным трохтыднёвым вяртаннем да нармальнага харчавання), Нарбекаў за паўтара года вылячыў 350 безнадзейна хворых людзей (гіпертонія, астма, грудная жаба).

Але ў 1956 годзе Нарбекаў памёр і яго аддзяленне перастала існаваць. Лешкаўцэў адшукаў адну з вучаніц прапагатара «галоднай тэрапіі», даведаўся ад яе аб метадзе лячэбнага галадання і прыступіў да эксперыменту.

Пачаткова ён пераносіў мукі голаду, затым апетыт пачаў заціхаць, а на шосты дзень прапаў зусім. На другі дзень супакоіўся боль у суставах, на 8-мы Лешкаўцэў устаў, на 11-ты — выйшаў на вуліцу. Затым ён ужо кожны дзень шпацыраваў і пачаў пісаць кнігу, работу над якой перарвала хвароба.

Гэта было надзвычайнае: чалавек, які трэці тыдзень не меў у роце аніводнай крошкі, спакойна разгульваў па вуліцах горада, працаваў. І адчуваў сябе даскaнала. Праўда, ён вельмі схуд (20 кг), але самаадчуванне яго бесперапынна палепшвалася. На 46-ты дзень ён пачаў выходзіць са стану галадоўкі. Хвароба зусім прапала. Ужо пяты год Лешкаўцэў працуе і актыўна прапагуе лячэнне голадам.

Лячэбны голад ужываецца і ў іншых краінах. Вядомы амерыканскі пісьменнік Эптан Сінклер, які нядаўна кончыў 96 год жыцця, кожны год праводзіць двухтыднёвую галадоўку з мэтай прафілактычнага лячэння. Апошнія тры гады рэгулярна па 20—25 дзён галадае і Лешкаўцэў.

Чым тлумачаць вучоныя лячэбныя ўласцівасці абсалютнага голаду? Прадугледжваецца, што пры эндагенным харчаванні (самаз' яданні) у арганізме адбываецца знішчэнне шкодных асадкаў, выразна актывізуюцца абаронныя сілы арганізма. (ак)

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**У гродзенскіх лясах з'явіліся людзі са штаба арміі. Правялі мы іх і здалі гутаміхалінскай брыгадзе, самі павярнулі назад. Спыняемся на адпачынак у дубаўскім гушчары. Ляжым раніцай, адсыпаемся пасля начнога пераходу. А сёмай прачынаюся, абыходжу стаянку, правяраю варту. Хлопцы яшчэ храпуць. Адна Люба ляжыць з адкрытымі вачыма. Кладуся побач. Ляжым і глядзім у неба. Вецер хістае верхавіны сосен, гоніць цяжкія хмары.**

**— Бр-р-р! — уздрыгвае дзяўчына.**

**— Праз пару гадзін сонца прыгрэе, — супакойваю, — то яшчэ будзеш скардзіцца на гарачыню і камароў!**

**Разгортваю плашч-палатку, накрываю сябе і яе.**

**Маю руку пацягнула ўбок. Не трэба так рабіць, мы ж — радня! Якая радня? Раслі асобна, толькі чуў, што ў Дзернякове ў мяне ёсць дваюрадная сястра, маладзейшая на чатыры гады. Перад самай вайной цётка прыязджала да нас у госці з нейкай сакавітай і гладкай рагатухай. Па вясковаму звычаю сталі цалавацца. Дзяўчына мяне чмокнула, я пачырванеў адразу, разгубіўся. Цэлы дзень, памятаю, пакуль гасціла бацькава сястра, на яе дачку не мог узняць вачэй, таму добра яе і не разглядзеў... Рука мая ўсё цягнецца. Звяртаю ўвагу на іншае. Гляджу на гадзіннік — пара мяняць варту. Кідаю шышку ў Курцэвіча, трапляю ў патыліцу.**

**— Га?! — усхопліваецца ён і азіраецца блізарукімі вачыма.**

**Люба выбухае такім смехам, што мяне разбіраюць дрыжыкі. Вася неахвотна ўстае, валачэцца на змену. Вяртаецца Янюк, тыцкаецца ў мох і адразу засынае. Люба зноў смяецца. А я ўсё заняты ўнутранай барацьбой. Пальцы па міліметру набліжаюцца да Любінага світэра.**

**— А-а, дык вось вы дзе! — узрадавана крычыць Філімончык, вылазячы з лесу.**

**— Цішэй, няхай паспяць, — абсякаю яго.**

**Штосьці ён часта ходзіць да нас без прычыны: і ў Каралёўскім лесе, і ў Ліпніку, і нават тут, у Дубаве, знайшоў.**

**— С-с-с-с! — уцягвае паветра праз зубы, паціpае рукі.**

**— Хо-о-ладна, чорт!**

**— Кладзіся, пагрэйся! — адхіляю яму свой край плашч-палаткі.**

**Але ён бесцырымонна падае з Любінага боку, накрываецца. — Пара-адак! — скаліць жоўтыя, з'едзеныя зубы, пацепаецца.**

**Размова ў нас не клеіцца. І Люба чагосьці панікла. Яна насцярожваецца, пачынае вярцецца. Толькі я гэтага амаль не заўважаю, увесь у палоне навязчывай думкі. Нарэшце мае пальцы дабіраюцца да Любы. Там натыкаюцца на... халодную і жорсткую, што халява, далонь!**

**Маё самалюбства церпіць не доўга. Ноччу ідзём удвух да Страшава. Філімончык — на хутар да сувязнога, я — на другі, дзе гаспадар мне абяцаў нешта даць.**

**Страшавец бярэ буеак, вядзе мяне на балота. Дастае з рова вінтоўку, чыеціць яе ад водарасцяў, вінавата кажа: — На! Яшчэ калі нашы адступалі ў сорак першым, падабраў. Закінуў сюды, падумаў — спатрэбіцца мо!**

**— Яшчэ як! — ускрыкваю больш для ветлівасці: вінтовак цяпер у нас дастаткова.**

**Адкрываю затвор, выліваю ваду, піхаю абойму патронаў, — усё ў парадку. Толькі штык ніяк не здымаецца, хоць важдаюся з ім хвілін сем. Навошта ён партызану, каб чапляцца за кожны куст?**

**— Заела, чорт? Няма чаго тут гуляць, здыму ў лагеры! — То здымеш сабе днём! Алёшка, на яшчэ і буханку хлеба. Там у лесе не напячэ вам ніхто!**

**— За хлеб дзякуй. Каб вы далі і квашанай капусты, было б яшчэ лепш!**

**— Думаеш, цашкадую такога дабра? Цэлая бочка асталася з зімы! Хадзем! У склепе дзядзька выбірае пяць тугіх мокрых галовак:**

**— Хопіць?**

**— Хо-опіць!**

**— То валачы!**

**— Але як? — чухаю патыліцу.**

**— А ты яе, заразу, мо на штык панадзявай, далібог!**

**Насаджваю качаны на вастрыё.**

**У лагер вяртаюся апоўначы. Трэба перайсці яшчэ чыгунку, а там — варта! Паўзу да палатна. У адной руцэ вінтоўка, у другой — буханка. Дзесьці тут павінен мяне чакаць Філімончык. Цэлы дзень мы з ім важдаліся, складалі планы, абменьваліся інфармацыяй, але і намёкам не выказалі пра тое, што адбылося раніцой. Ад варожасці да яго мяне аж разрывае! А вось і ён.**

**— Гатоў? — пытаюся.**

**— Гатоў!**

**— І я. Тады паўзем.**

**Філімончык, што бегемот. Сапе, шуршыць, звякае каменнямі. Вяду яго да чыгункі ля паўстанка, дзе, па-мойму, варты з сялян не павінна быць. Сапраўды, мужыкоў там няма. Наносіць нялёгкая патрулёў. Немцы чуюць звяканне, спыняюцца. Калі ім становіцца зразумелым, хто паўзе, залягаюць у яміну, выпускаюць ракету.**

**Прытойваемся. Яскрава-белы агеньчык дасягае максімальнай вышыні, апісвае дугу, падае Лебядзінскім на падворак.**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў



## Электрыфікацыя

На Сакольшчыне пачалася электрыфікацыя лясных вёсак: Сурожкава, Ліпавага Маста, Сакалды, Казень і іншых. Працуе пры гэтым 6 брыгад па 10 чалавек кожная.

На здымку: Памяшканне настаўнікаў у Сакалдзе, якое нядаўна атрымала электрычны ток. (мх)

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ — «НІВА» АДКАЗВАЕ

Пытанне:
У 1957 г. я купіў у суседа 3 га. зямлі. Умову мы спісалі самі, прычым пацвердзіў яе старшыня прэзідыума грамадскай рады. Я заплаціў 20 000 зл. Ва ўмове мне зазначылі, што калі б прадавец патрабаваў звароту зямлі, абавязаны мне звярнуць 40 000 зл. Цяпер ён праз суд дамагаецца адабраць зямлю. Ці маю права патрабаваць звароту 40 000 зл? Ці магу затрымаць зямлю да часу, пакуль ён зверне мне грошы?

Адказ:
Уласнасць нерухомай маёмасці можна набыць толькі ўмовай заключанай у натарыуса. Па гэтаму ўмова, якую Вы заключылі з суседам, няважная. Паводле закону ў гэткіх выпадках кожны, хто падпісаў такую ўмову, абавязаны звярнуць другому тое, што ў выніку гэтай умовы атрымаў, у вашай сітуацыі сусед ваш мае права патрабаваць звароту зямлі, якая з праўнага пункту гледжання не перастала быць яго ўласнасцю, а Вы можаце патрабаваць ад яго толькі 20 000 зл., якія Вы яму заплацілі. Пры гэтым Вам прыслугоўвае права затрымаць зямлю да часу, пакуль ён зверне гэтыя грошы.




## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

«Вельмі Цябе прашу, каб Ты мне дапамагло. Маю 17 год і вучуся ў Засаднічай будаўлянай школе ў Беластоку апошні год. Хачу вучыцца далей у Будаўляным тэхнікуме, але не ведаю адрасу. Вельмі Цябе прашу, каб Ты не адказала маёй просьбе», — піша М. з Бельскага павета.

Падаю табе адрас Будаўлянага тэхнікума ў Беластоку:
Беласток, вул. Сланімская № 47 (дзённая, вечаровая і карэспандэнцыйная навука).

«Маю 16 год. Жыву на гаспадарцы з бацькамі. У 1964 годзе я скончыла пачатковую школу і засталася на гаспадарцы. Цяпер надумалася ісці вучыцца далей.
Дарагое Сэрцайка, падай мне такія сярэднія школы, дзе прымаюць кандыдатаў пасля 16 год. За параду вельмі буду ўдзячна», — піша Оля В. з Гайнаўскага павета.

Дарагая Оля!
Ужо запозна, каб у гэтым годзе можна было паступіць у якую-небудзь школу. Экзамены ўжо прайшлі і спіскі прыняцця замкнуты. Каб паступіць у сярэднюю школу на наступны год, трэба мець закончаных 8 класаў пачатковай школы. У гэтым годзе, можаш яшчэ, Оля, паступіць у Агульнаадукацыйны ліцэй — аддзел карэспандэнцыйны — у Беластоку пры вул. Цёплай 32. Прашэнні ўжо можна складаць, а экзамены адбудуцца ў месяцы верасні. Можаш таксама кончыць СПР (напэўна ў вашай аколіцы такія ёсць), а тады маючы 18 год паступіць у карэспандэнцыйны тэхнікум ральнічы ў Беластоку. Будзеш мець сярэднюю адукацыю і добрую прафесію.

Жадаю ўсяго найлепшага
**Сэрцайка**

## УРАЧЫСТАЯ АКАДЭМІЯ

З нагоды 1 Мая адбылася ў Паўлах 30 красавіка ўрачыстая акадэмія, на якой прысутнічаў афіцэр польскага войска Збігнеў Занеўскі і суддзя павятовага суда ў Бельску Падляшскім грамадзянін Эдвард Голас. Гэты апошні выступіў з дакладам. Пасля дакладу забраў голас Збігнеў Занеўскі, які пазнаёміў прысутных з гісторыяй войска на працягу тысячагадовага перыяду існавання польскай краіны.

Выступленне афіцэра ўдзельнікі акадэміі прынялі бурлівымі, сардэчнымі воплескамі. На заканчэнне дэманстраваўся савецкі мастацкі фільм пад загалоўкам «Бурлівая маладосць». У акадэміі масавы ўдзел прыняла моладзь і пажылыя жыхары вёскі Паўлы. **(Ф.)**

## МНОГА ЗМЯНІЛАСЯ

У вёсцы Мора, якая налічвае каля 120 жыхараў, за апошнія гады многа змянілася. 2 гады таму назад арганізавана клуб кніжкі і друку «Рух», які з'яўляецца цэнтрам культуры ў Моры. Зімою наша моладзь купіла радыё і тэлевізар. Многа людзей збіраецца тут, а найбольш у суботу і нядзелю, на тэлевізійныя перадачы.

Жыхары вёскі Мора вельмі задаволены з таго, што маюць дзе адпачыць у вольны час ад працы.

**Ніна з Мора**

## КУРС ВАРЭННЯ І ПЯЧЭННЯ

Нядаўна ў вёсцы Рэпіска (Гайнаўшчына) адбыўся курс варэння і пячэння. Удзельнічала 18 асоб. На заканчэнне адбылася вечарына, якую сарганізаваў гурток вясковых гаспадынь. Такі курс адбыўся таксама ў Трывежы, Ласінцы, Прыбудках і Крыніцы.

**Аляксандр Варонка**
вёска Рэпіска

## ПАВЕСІЎСЯ МАЛАДЫ МУЖЧЫНА

У пачатку сакавіка ў вёсцы Цялушкі, Бельскага павета, павесіўся нечакана ва ўзросце 29 гадоў жыхар гэтай вёскі — Уладзімір Васілюк. У трагічны дзень раніцаю Васілюк падаваў жывёле, пападсцілаў у хлявах і, увайшоўшы ў хату, папрасіў у жонкі есці. Жонка сказала, што снеданне яшчэ не гатовае. Тады Васілюк заявіў, што хоча прайсціся і, узяўшы сякеру, пайшоў недзе. Толькі пасля некалькіх дзён людзі знайшлі яго павешанага ў недалёкім ляску. У кішэні быў ліст да жонкі, у якім дэнат перапрашаў яе за свой паступак, прасіў, каб дбала пра дзяцей і пажадаў, каб была шчаслівай. (п)

## ПАДАРУНАК ДОМУ КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ

Чарговы падарунак — сваю кніжку «Творчае пабрацімства» (беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст.) — прыслаў Дому культуры ў Гарадку вядомы савецкі крытык і гісторык літаратуры Адам Мальдзіс.

# КІНО

Праграма на 24—29. V. 1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Mezaliars" (węgier.), 24—25. „Dworek 4-ch dziewcząt" (węgierski), 26—27. „Przybycie tytanów" (USA), 28—29.

**Кляшчэлі**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 24—25. „Mandacik proszę" (włoski), 26—27. „Samson" (polski), 28—29.

**Дубіны**
„Cena odwagi" (bułg.), „Orkiestra wojskowa" (węgierski", 28—29.

**Нарва**
„Casanowa znad Dunaju" (węgierski), „Nowy Gilgamesz" (węgierski), 25—29.

**Нараўка**
„Człowiek który zabił Liberty Valnca" (USA), „Wojna trwa" (włoski), 25—29.

**Чыжы**
„Nieznajomi z pociągu" (USA), „Okres próbr.y" (radz.), 25—29.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ballada o dziewczynie" (wietnamski), „Inspektor Morgan prowadzi śledztwo" (angl.), 25—29.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Człowiek z fotografii" (jugosłowiański), „Drewniany różaniec" (polski), 25—29.

**Орля**
„Okres próbny" (radz.), „Obca krew' (radz.), 25—29.

**Райск**
„Późne popołudnie" (polski), „Człowiek I-go stulecia" (czeski), 25—29.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Zarezerwowane dla śmierci" (NRD), „Dni grozy i śmiechu" (USA), 25—29.

**Міхалова**
„Pierwszy dzień mego syna" (czeski), 24—25. „John i Erdme" (franc.), 26—27. „Niedziela sprawiedliwości" (polski), 28—29.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Manekin Pis" (holend.), 24—25. „Ukryte skarby" (radz.), 26—27. „Oskarżony" (czeski), 28—29.

**Мілейчыцы**
„Podróż nie z tej ziemi" (jugosłowiański), 24—25. „Miłość jedrej nocy" (radz.), 26—27. „Troje i las" (polski), 28—29.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Towarzysz Regent" (czeski), 24—25. „Najdroższa" (radz.), 26—27. „Zaczęło się w Rzymie" (włoski), 28—29.

**Шудзялава**
„Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), „Poste restante" (radz.), 25—29.

**Сідра**
„Kapral i inni" (węgier.), 24—25. „Syn skazańca" (angl.), 26—27. „Święta wojna" (polski), 28—29.

**Сухаволя**
„Mam 20 lat" (radz.), „Trzy życzenia" (angl.), 25—29.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„O życie dla Ruth" (franc.), „Ostatni świadek" (NRF), 28—29.

**Ліпск**
„Ostrożnie babciu" (radz.), „Bracia" (czeski), 28—29.

---

Немцы пачынаюць страляць трасіруючымі кулямі.

Таго, хто даў капусту, заўсёды лічылі самым несвядомым і адсталым у Страшаве. І пры Польшчы, і цяпер яго нават старaніліся, баяліся. За зброю немцы расстрэльвалі на месцы, а ён жа не здрэйфіў, падабраў яе, схаваў і два гады пра яе думаў. Няважна, што цяпер вінтовак у нас хапае. Ад добрага, што даведаўся пра яго, у мяне ўзнімаецца настрой.

Ляжу на балотцы Васіля і Мікалая Лебядзінскіх. Тут у іх расце пару кустоў ракіты, не раз рэзаў на кошыкі. Вунь чарнее Васілёў хутар. Параняць, і магу паўзці туды, як у сваю хату. Ля самага бункера жывуць браты Альяшы, і да іх магу! І да іншых... Хоць цэлы атрад размяшчай па хатах сваіх страшаўцаў пад бокам у нямецкага бункера!.. Што я быў бы варты без гэтых людзей, без Страшава?..

Дзесьці Васілёва Надзя наварыла на вячэру заціркі на малацэ з пытлянай мукі... Эх, няма часу, трэба адпраўляцца ў Каралёўскі лес.

Калі б узяў хто вялізную вагу і дваццаць тры гады таму назад зважыў страшаўскія палі са збажынай, балоты з травамі, лес з кветкамі і паветра з пахамі, і зрабіў гэта яшчэ раз цяпер, то ў яго не хапіла б роўна столькі кілаграмаў, колькі нашу сваімі нагамі я. Кожны атам, кожная салінка і кожная малекулка ва мне мае сабе родную ў целах жывых страшаўцаў, у страшаўскім полі, тарфяніску, нават у страшаўскім палыну, крапіве, у ліпніцкіх крывулінах...

Усімі клеткамі свайго цела адчуваю, як Страшава ад мяне чагосьці чакае. Пакуль ва мне цепліцца свядомасць, ці ж змагу пайсці супроць сябе і падвесці землякоў?

Хочацца адыходзіць і не хочацца. Мокрая ад расы трава, халаднаватая былінка, якую падагнуў шчакой, здаюцца мілымі, роднымі, а тут яшчэ гэтыя тры чужыя салдаты ў кустах. Падмывае свавольства. Давай паспрабую, як б'е вінтоўка! Здымаць са штыка галоўкі лень, — чорт яе бяры з капустай, усё роўна вывазіў у пясок. Заганяю ў патроннік набой, зладжваюся, націскаю на спуск.

Бах! — абдае мяне нечым мокрым.

— А-а! — верашчыць Філімончык.

— Ты чаго?

— Забі-іла...

— Што з табой, Вася? — палохаюся не на жарты.

— Мазгі выскачылі, во! — працягвае далонь, на якой бялеюць шматкі квашанай капусты.

Моўчкі перабягаем рэйкі. Перад нашай стаянкай Філімончык развітваецца.

— Зойдзем, павячэраем?

— Мяне свае чакаюць, — бурчыць.

З той пары да нас не зайшоў ні разу.

ПРАЦЯГ БУДЗЕ

# ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер — у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у зл.):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 280 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 440 | 400 | 360 |
| яйкі | 1 шт. | 1,50 | 1,25 | 1,25 |
| масла | кг | — | 55 | 60 |
| ялавічына | кг | 36 | — | 24 |
| свініна | кг | — | 38 | 35 |
| сала | кг | — | — | 35 |
| бульба | цэнт. | 150 | 90 | 100 |
| цыбуля | кг | 5 | 3 | 3 |
| капуста | кг | — | — | — |
| морква | кг | 2,25 | 2 | 2 |
| буракі | кг | 2,50 | 2 | 2 |
| сена | цэнт. | 110 | — | 120 |

**„Ніва"—у кожнай беларускай сям'і.**

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37 41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA. Nakład 5458. Błtk D-3



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

